Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 10 Субота, 7-га ліпня 1923 г. Год I.

## Дзеля лепшае будучыны.

Школьны год ужо закончыўся.

Звычайна з канцам гадавое працы робяць падрахунак того, што за гэты год зроблена. Зробім гэта і мы, ды толькі наш падрахунак на землях Заходняе Беларусі дужа кароткі і невялікі.

Працавала некалькі дзесяткаў пачаткавых беларускіх школ і пяць гімназіяў. Гэта ўсё на паўтраця мільёна боларусаў, якія жывуць у межах Польскага гаспадарства.

Асабліва цяжкі абраз прадстаўляе наша пачаткавая школа. Усе захады нашага сялянства адкрываць па вёсках школы ў роднай беларускай мове канчаліся нічым. Не памаглі і выступленьні нашых паслоў у Сойме: паны міністры сулілі многа, ды неспаўнялі ніводнае свае абяцанкі. І толькі дзе-не-дзе сяляне, ня хочучы аддаваць дзяцей сваіх у чужую школу, дагадваліся абхадзіцца бяз школы: яны ў кампаніі наймалі вучыцеля-беларуса, які вучыў у хаце гурток, або „камплект“ дзяцей.

Сярэдняя школа з беларускай выкладовай мовай разьвіваецца лепей. Наперадзі ўсіх беларускіх гімназій ідзе бясспрэчна Віленская, у якой сабраліся найлепшыя беларускія пэдагагічныя сілы, і ўсе навукі выкладаюцца выключна пабеларуску.

Беларускія гімназіі ў гэты мамэнт маюць асаблівае значэньне для беларускае справы: гэта-ж у іх узгадовываюцца запраўдныя народныя беларускія інтэлігенты, запраўдныя сыны вёскі, якія вышаўшы „ у людзі“, ужо не адракуцца ад сваіх сярмяжных братоў, не перакінуцца да чужой нацыянальнасьці. Гэта будучыя нашы абаронцы-змагары за волю і культуру нашага працоўнага народу. Гэта будучыя творцы нашае нацыянальнае культуры. І няхай наша вёска яшчэ ў працягу гадоў будзе прымушана вучыцца ў чужой мове—гэта ня страшна: сто гадоў маскоўскія цары стараліся „пераварачываць“ беларусаў на маскалёў, сто гадоў не давалі нам слова сказаць пабеларуску, ды нічога не дапялі. Так не дапнуць сваей мэты і тыя, што спадзяюцца за некалькі гадоў „перакуліць“ нас на палякаў: цяпер мы ўжо нацыянальна збудзіліся, цяпер мы маем сваю нацыянальную інтэлігенцыю—сьвядомых змагароў за наш народ і вызваленьне яго нацыянальнае душы. І рады такіх інтэлігентаў-змагароў з кожным годам павялічываюцца дзякуючы ў значнай меры якраз істнаваньню беларускіх гімназій.

Праўда, трэба тут адкрыта сказаць, што беларускія гімназіі істнуюць і разьвіваюцца толькі дзякуючы ідэйнасьці і ахвярнасьці нашага вучыцельства сярэдніх школ. Прыкладам, у віленскай беларускай гімназіі ніводзін з вучыцялёў-беларусаў за 5-6 лекцыяў у дзень не зарабляе на самае скромнае, пражыцьцё. Кожны з іх, скончыўшы работу ў сваей гімназіі, прымушаны, замест заслужонага адпачынку, шукаць работы недзе на старане, ды толькі такім спосабам можа забясьпечыць кусок хлеба для сябе і для сваіх дзяцей.

Вынікае гэта з таго, што беларускія гімназіі, як гімназіі для дзяцей працоўнага народу, самая танная, бяруць найменшаю плату за навуку. Дый мала таго: у Віленскай гімназіі атрымліваюць зусім дармовую навуку дзеці сіроты, якія гадуюцца ў беларускім прытулку.

Гэту ахвярную працу наш народ павінен зразумець і ацаніць, як належыцца. Нашае сялянства, хоць часта і магло-бы вучыць сваіх дзяцей у гімназіі, шкадуе на навуку грошы, або пасылае дзетак вучыцца ў чужацкія гімназіі, калі яны бліжэй знаходзяцца. Вось-жа няхай кожны беларус памятае, што аддаўшы сына ці дочку вучыцца да чужых, ён гэтым самым пазбавіў сябе і свой народ натуральных абаронцаў і заступнікаў: узгадаваныя на чужацкіх ідэалах, у варожым да нас духу, дзеці нашы забудуцца аб народзе і будуць усё жыцьцё працаваць толькі для чужых. Зусім другое дасьць навука ў сваей нацыянальнай школе: яна захавае нам на заўсёды нашых сыноў і дачок. І кожны бацька павінен гэта зразумець, павінен напружыць усе свае сілы і аддаць дзяцей у беласкую гімназію, хоць бы прышлося ехаць далей і мець больш клопату. А чым больш дзяцей будзе вучыцца ў беларускіх гімназіях, чым лепш будзе аплачывацца праца вучыцялёў, тым лепей будзе ісьці і навука: кожны працаўнік гімназіі будзе мець магчымасьць працаваць толькі ў сваей гімназіі і аддаць ей усе свае сілы да канца, не прадаючы часткі іх дзеля куска хлеба на старане.

Цераз два месяца пачнецца новы школьны год. Няхай-жа нашы сяляне зразумеюць свой сьвяты абавязак даваць дзеткам навуку і то навуку ў сваей, беларускай гімназіі, няхай скарыстаюць з летняга часу, калі многа нашае школьнае моладзі разьехалася па вёсках, і няхай падгатуюць дзяцей дзель паступленьня ў беларускія гімназіі.

Няхай усе зразумеюць, што наша **будучына—у нашых руках**: вучачы сваіх дзяцей, мы творым апору і кожны для сябе, і для ўсяго нашага сярмяжнага, гаротнага народу.

**Ст. Мірскі.**

## Свой свайго пазнау...

Аб справах, якія робяцца шахер-махер за кулісамі ўраду, далёка ад вока грамадзянства, рэдка нам удаецца злавіць нават маленькую дробезь, нашчупаць маленькі кончык шыла таёмных спраў у мяшку закулісный палітыкі.

У апошні час адно такое шыла тых „спраў“ вылезла на дняўны сьвет ува ўсей сваей нагаце і праткнула наскрозь сорамам яго тварцоў—„правіцу“ і „левіцу“.

Усе польскія законы і трактаты (умовы), падпісаныя Польшчай, ясна і рашуча кажуць, што землі, належачыя калісь да каралёў і цароў (расейск., аўстр. і нямец.) пераходзяць на уласнасьць дзяржаве „bez zastrzeżeń i wyjątków“. Сказана, здаецца, зразумела для кожнага цьверозага і здаровага чалавека. Аднак Найвышэйшы Суд і Пракураторыя зразумелі гэта пасвоему і 64.000 гэктараў зямлі, належачыя калісь да Караля Габсбурга (нямецкая царская фамілія), рашылі прызнаць уласнасьцяй гэтага б. вялікага князя. Ды і як-жа было не прызнаць, калі К. Габсбург, дзякуючы захадам свайго сваяка гішпанскага караля, атрымаў... „obywatelstwo polskie“.

А мы культурныя працаўнікі ды шмат хто з беларусаў цэлымі месяцамі ходзім, абіваем парогі розным установам ды адходзім не з „obywatelstwem“, а з носам і ня ведаем таго, што патрэбна пратэкцыя гішпанскага караля!

Быўшы ўрад Сікорскага, па якім так уздыхае польская „левіца“, лічыў патрэбным выдзяліць 3900 гэктараў на карысьць дзяржавы, а рэшта 60.100 гэктараў аддаць таму-ж шчасліваму Габсбургу. Можа-б гэтая справа і ўвайшла ў даўнасьць, каб Сікорскі прэмьерстваваў далей, але з яго адстаўкай яна атрымала гласнасьць.

Справа зямель Габсбурга вызвала ня мала шуму ў польскай прэсе і на паседжаньнях заграічнай і праўнай камісіяў, на якіх выбіраліся падкамісіі для агалошаньня таёмных пастаноў.

Аказываецца, што і цяперашні Хьена-пястоўскі ўрад таксама нашоў карысным вясьці перагаворы з К. Габсбургам і яшчэ колькі тысячоў маргоў здалеў ут ымаць для дзяржаўнага ўладаньня, а рэшта львіную долю пакінаў экс-князю, быццам да гэтага яго прымусілі „międzynarodowe polityczne motywy“. Тым часам на паседжанях камісіі было высьнена, што зьняцьце сэквэстру з гэтых зямель магло-б толькі пашкодзіць інтарэсам Польшчы.

Дык каму яно карысна?

Такім парадкам без санкцыі народнага прадстаўніцтва — Сойму, абходзячы закон і трактаты, апіраючыся на мітычных міжнародных палітычных матывах, вядзецца торг дэмакратычнай дзяржавы з неякім патомкам з выміраючай царскай сямьі, робіцца ўрона дзяржаве на карысьць гэтага патомка. Кажу ўрона дзяржеве, бо ў ёй жывуць мільёны безьзямельных і малаземельных сялян, бо ў ёй асаднікам аддаецца зямля ў крыўду мясцоваму насяленьню, аддаецца нават сэрвітутная зямля, бо у ёй зямельнае пытаньне, ёсьць пытаньне набалелае і патрабуе неадкладнага вырашэньне.

Зразумела, што тут ёсьць спагад і зразуменьне княжаскіх інтарэсаў. Свой свайго пазнаў і ў госьці пазваў, ды ўгасьціў „obywatelstwem“ і 64000 гэктараў дзяржаўнай зямлі — знай панскую гасьціннасьць.

Чаго толькі ў нас ня бывае!

**Р. Юргілевіч.**

## „Надоуга і усур‘ёз“.

Толькі ад часу да часу даводзіцца нам атрымаць жменю ведамасьцей аб тым, як жывуць нашы браты ў Усходняй Беларусі, аддзеленыя ад нас граічнай мяжой. Весткі гэтыя даюць абраз таго змаганьня, якое беларуская адраджэнская ідэя прымушана вясьці там, дзе абвешчаны самыя шырокія прынцыпы волі і самавызначэньня нацыянальнасьцей....

Орган беларускіх камуністаў „Савецкая Беларусь“ у нумары з 9 чэрвеня шчыра прызнаецца:

„Мы знаем добра, якія вялікія труднасьці стаяць перад намі, перад нашымі партыйнымі і савецкімі установамі ў справе беларусіфікацыі. Мы маем па нашых гарадох „расейскую стыхію“, старога чыноўніка, перафарбованага на савецкі колер, але ў сэрцы сваім захаваўшага ўсе добрыя адзнакі „стараго добраго времени“. Мы маем на вёсцы таго-ж самага чыноўніка ў асобе старога валаснога пісара, які часта перарабіўся на сэкратара валіспалкому, маем там начмэйстара, нарэшце маем там моцную, яшчэ слаба паварушаную хэўру папоўства і яго сямейку, якое ў нас на Беларусі было адным з самых пэўных у сэнсе „абрусіцельнасьці“ нашага краю. Рабочая кляса Беларусі павінна перамагчы ўсе перашкоды, якія стаяць на шляху Савецкай Беларусі да яе культурнага росквіту. І ў першую чаргу трэба перамагчы інэртнасьць адсталых рабочых, не разумеючых усяе вялікае значнасьці росквіту беларускае культуры“.

„Мы павінны перамагчы праклятую спадчыну мінулага, спадчыну царскага і панскага „выхаваньня“, перамагчы інэртнасьць і пайсьці сьмелым крокам да культурнай сувязі паміж рабочымі і сялянствам на Беларусі“.

Прызнаньні камуністычнае газэты — нязвычайна цэнны. З таго дня, як у Савецкіх Рэспубліках пачалася новая нацыянальная палітыка, стары маскоўскі нацыяналізм і цантралізм, што быў прытуліўся пад крыльле расейскага камунізму, губляе апошні грунт пад сабой. Але і цяпер яшчэ не паддаецца духу часу: як відаць з прыведзеных слоў савецкага органу, беларусам прыходзіцца вясьці з ім вострае змаганьне.

Газэта дае цэлы рад праектаў дзеля дасягненьня пастаўленай перад партыяй мэты—беларусіфікацыі ўсяго ўрадовага апарату на Беларускай зямлі. На вялікі жаль, усе гэтыя праекты не разьвяжуць справы: пад той час, як беларусіфікацыя праводзіцца выключна ў межах аднае Менскае губэрні, бо толькі гэтая губэрня ўваходзіць у склад Савецкай Беларусі,—па ўсей Вітабшчыне, Магілёўшчыне і Смаленшчыне старая маскоўская хаўрузія, „расейская стыхія“, пакінутая ў спадчыну царскім урадам, і далей мае сілу і ўладу, і далей масковіць нашу вёску і места. І пакуль менскія прадстаўнікі гэнае паганае спадчыны будуць бачыць, што творыцца за межамі Меншчыны, яны ніколі не паверапь, што новая нацыянальная палітыка адносна да беларусаў будзе праў дзіцца „надоўга і ўсур'ёз“.

Вось-жа мы і думаем, што далейшае заховываньне падзелу Усходняе Беларусі на „Беларускую“ і „Маскоўскую“ будзе звадзіць да нуля ўсе стараньні беларускіх камуністаў правясьці да канца тую рэвалюцыю, „якая не закончылася і не закончыцца да таго часу, пакуль ня будзе вызвалены спад цемры апошні рабочы і сялянін“, — як кажа „Сав. Бел.“. Толькі чым хутчэйшае аб'яднаньне гэтак штучна падзеленых Беларускіх зямель у адзін суцэльны арганізм—у адну Беларускую Рэспубліку маглобы стварыць моцны грунт для запраўднае рэалізацыі беларускага адраджэнскага ідэалу і пераканаць і маскоўскіх нацыяналістаў усіх колераў, і саміх беларусаў, што новая нацыянальная палітыка ў Савецкіх Рэспубліках вядзецца запраўды „ўсур'ёз і надоўга“.

**К. Фалькевіч.**

# Палітычныя падзеі.

## Проціў рэакцыі.

Узрост рэакцыйных сіл і выразны, нічым не маскаваны паход, іх проціў рэвалюцыйна настроеных працоўных клясаў, імкненьне да безаднасной дыктатуры буржуазіі, мае пэўныя дадатнія вынікі. Клясавая барацьба становіцца больш выразнай. Заданьні і мэтады барацьбы пазбаўляюцца тэй туманнасьці і расплыўчатасьці, якія былі прышчэплены социял-угадовымі кірункамі ў пэрыяд сусьветнай вайны. Усё выразьней выступае падзел на пануючых і прыгнечаных, ўсьведамленьне працоўных мас ідзе хутчэйшым тэмпам і змушае іх адзінаму фронту буржуазна-імпэрыялістычнага наступу праціўставіць адзіны фронт пралетарскай салідарнасьці.

Узрост рэвалюцыйных сіл адзначаецца ўва ўсей Эўропе. Кліч Комінтэрну аб стварэньні адзінага сацыялістычнага фронту змаганьня з рэакцыяй знаходзіць послух у шырокіх масах працоўных усіх краёў. Праўда, Гамбурскі кангрэс, кіраваны лідэрамі даваеннага Інтэрнацыяналу, адкінуў прапазыцыю аб аб'еднаньні ўсіх сацыялістычных партый, але ўсё-ж такі ў шмат якіх краёх гэты лёзунг—паміма волі афіцыяльных лідэраў—выплывае на парадак дня. Узрост уплываў найбольш левых сацыялістычных кірункаў выяўляецца бадай усюды. Вось некулькі прыкладаў. На апошніх выбарах у баўгарскае Сабраньне, ня гледзячы на рэжым Стамболійскага, камуністы атрымалі найбольш галасоў, нялічучы ўрадовай сялянскай партыі. На пашырэньне камуністычнага руху ў Нямеччыне паказуюць падзеі апошніх месяцаў. Ня гледзячы на нячуваныя рэпрэсыі фашыстаў, максымалістскі і камуністычны рух у Італіі ня толькі не задушаны, але пашыраецца з кожным днём. Дадатковыя выбары ў французскую палату дэпутатаў у дэпартамэнце Сэны і Уазы сьведчаць аб тымжа.

Шмат аб чым кажа і нядаўна адбыўшыся кангрэс Labour Party (Работніцкай партыі) у Англіі. У Англіі—краіне клясычнага парлямэнтарызму і дэмакратычных свабодаў, магутным асяродку прамысловасьці і гандлю, маючым шырокае поле для вызыску ў вялізарных паднявольных калёніях, — работніцкія масы карысталіся, ў пэўнай меры, некаторымі, так сказаць, прывілеямі; палажэньне іх было шмат лепшае ў параўнаньні да палажэньня іх таварышаў у другіх краёх, асабліва, паднявольных. Гэтыя варункі—адноснага дабрабыту работнікаў—зьяўляюцца найлепшым грунтам для разьвіцьця дробнамяшчанскай ідэолёгіі і ўгодніцкага нахілу. Такія адзнакі і характэрызавалі дагэтуль Labour Party, якая фактычна мела на мэце не змаганьне за ўвядзеньне сацыялізму ў жыцьцё, а скарэй, змаганьне за штодзеннае паляпшэньне работніцкай клясы ў буржуазнай дзяржаве.

Падзеі апошніх гадоў, а асабліва сусьветная вайна, вялікі рэвалюцыйны рух на Усходзе Эўропы і ўзмагаючаяся рэакцыя на Захадзе, разам з эканамічным крызысам у самай Англіі,—змусілі і гэтую найбольш угадовую з работніцкіх партый заняць іншае становішча. Вось што кажа, прынятая на кангрэсе рэзалюцыя: „кангрэс абвяшчае, што найвысшай мэтай партыі ёсьць замена капіталістычнага ладу сацыялістычным і што гэтая мэта зьяўляецца аснаўною розьніцай паміж Labour Party і абедзьвюмі партыямі кансэрватыўнай і лібэральнай“.

Рад другіх рэзалюцый аб прызнаньні савецкага ўраду, пратэсты проціў акупацыі Рура і ўзбраеньняў паказываюць на гатоўнасьць партыі да змаганьня за ўвядзеньне ў жыцьцё сваіх тэорытычных вывадаў, а заява аднаго з дэлегатаў, што Labour Party павінна быць гатова ўжо ў 1926 г. узяць уладу ў свае рукі—выразна падкрэсьлівае на жаданьне пратварыць словы ў чын.

Праўда і тут рэзалюцыя аб аб'еднаньні ўсіх сацыялістычных кірункаў да камуністаў уключна была адкінута. Але вялізарны лік галасоў адданых за гэтую рэзалюцыю (больш 400.000) выразна сьведчыць, што ідэя адзінага пралетарскага фронту змаганьня з рэакцыяй мае пад сабою моцны грунт і сярод ангельскіх рабочых.

**Язьвіч.**

## ПОЛЬШЧА.

Забастоўка жал.-дар. работнікаў трывае далей і захоплівае новыя станцыі. На сходзе забаставаўшых у Львове пастаноўлена змагацца датуль, покі ўрад не задавольніць вымаганьняў, а іменна павялічэньня заработнай платы адпаведна ўзросту дарагоўлі. Падобную пастанову прынялі і жал.-дар. работнікі ў Кракаве.

„Robotnik“ паведмляе, што прычынай забастоўкі зьяўляецца страшэнна нізкая плата рабстнікам у параўнаньні з дарагоўляй. У той час, як адно толькі прахарчаваньне работніцкай сямьі з трох асоб каштуе 36.100 марак, плата разам з 28% падвышкай выносіць толькі 36.600 м. у дзень. Урад адносна забаставаўшых ужывае меры гвалту і рэпрэсый, пагражаючы звальненьнем са службы. Гэта моцна абурае работнікаў выклікае яшчэ болей рашучае становішча забаставаўшых, каб дабіцца сваіх законных жаданьняў.

---

Рада міністраў ухваліла праект уставы у справе прызнаньня ўласнасьці б. чыншавікоў і шмат гадовых арэндатараў на крэсах усходніх.

---

Адбылося паседжаньне Ваеннай Рады, Дыскусія мела востры характар. Пасьля нарад маршалак Пілсудскі заявіў, што адмаўляецца быць старшынёю Ваеннай Рады.

„Dziennik Wileński“ паведамляе, што на гэтым паседжаньні дайшло да вострага канфлікту паміж Пілсудскім і ваенным міністрам ген. Шэптыцкім, які вызваў Пілсудскага на дуэль. Пілсудскі вызаў прыняў. Дуэль адбылася без ніякай шкоды для абодвых.

## Ні у Рыгу, ні у Сінаі.

„Robotnik“ паведамляе, што ходзяць чуткі аб адстаўцы міністра заграпічных спраў Сэйды, з прычыны няўдачы яго палітычных выступленьняў. Кандыдатам у міністры загр, спраў называюць Скірмунта, які ўжо раз займаў гэтую пасаду.

У бліжэйшых днях адбудуцца дзьве міжнародныя канфэрэнцыі, ў якіх і Польшча мае браць учаоьце: адна — балтыцкая ў Рызе, другая — Малай Антанты ў Сінаі. У Рыгу п. Сэйда не паедзе, бо дрэнна арыентуецца ў балтыцкіх справах, а ў Сінаі так-сама не паедзе з прычыны напружаных адносін з чэскім міністрам заграпічных спраў Бэнэшам, які верхаводзіць палітыкай Малай Антанты.

## Нарушэньне канстытуцыі.

„Robotuik“ паведамляе, што пазнанскі ваевода забараніў Амэрыканскай Місыі Мэтадыстаў весьці далейшую дзеяльнасьць на тэй падставе, што **Місыя Мэтадыстаў ня зьяўляецца дазволенай праз дзяржаву рэлігіяй**. Гэтая пастанова зусім спрэчна з Польскай Канстытуцыяй, якая забес пячае свабоду рэлігійных перакананьняў.

## АНГЛІЯ.

У ангельскай прэсе зьявіліся артыкулы аб тым, што Англія распачне сэпаратныя перагаворы з Нямеччынай у справе адшкадаваньняў. Пры гэтым Англія згаджаецца на выплату ёй Нямеччынай 600 мільёнаў марак што-год, якую суму Англія павінна плаціць Злучаным Штатам, згодна умовы. У Англіі ўсе пераконаны што акупацыя Руры шкодна адбіваецца на яе інтарэсах. Гэтыя весткі моцна непакояць Францыю. Спадзяюцца, што на гэтым тыдні становішча Англіі і Францыі будзе вырашана.

---

Праект павялічэньня паветранага ангельскага флёту спаткаўся з вострым пратэстам работніцкай цартыі. На паседжаньні прэзыдыуму партыі аднагалосна прынята рэзалюцыя, сьцьверджаючая, што перагонкі паміж Англіяй і Францыяй у павялічэньні ліку баявых самалётаў азначае наступленьне новага перыяду ваеннага ўзбраеньня. Рэзалюцыя дамагаецца ад ангельскага ўраду скліканьня міжнароднай канфэрэнцыі для агранічэньня ўзбраеньняў у паветры.



## НЯМЕЧЧЫНА.

Нямеччына перажывае страшэны гаспадарчы крызыс; дарагоўля расьце непамерна. Дзяржаўны банк стаў друкаваць ужо банкноты па паўмільёна марак, а хутка будуць друкавацца па мільёну мар. Эмісія банкнотаў перавысіла ўжо 13 більёнаў марак. За апошні толькі тыдзень абег банкнотаў павялічыўся на 2 більёны марак.

---

Прыхільнікі быўшага насьледніка робяць захады, каб даць яму магчымасьць вярнуцца ў Нямеччыну. Калі гэта удасцца, дык б. насьледнік хоча выставіць сваю кандыдатуру ў прэзыдэнты Нямецкай рэспублікі.

---

Пасьля ўзрыву мосту ў Дюйсбургу, рэпрэсыі акупантаў яшчэ больш павялічыліся; 7 чалавек растрэляна, уведзена асаднае палажэньне, пастаноўлена звольніць усіх жал.-дар. служачых. Становішча работнікаў у Руры надта дрэннае. Лік безработных павялічаецца, падвышка платы ня можа пасьпесь за ўзростам дарагоўлі і нэндза работнікаў расьце з кожным днём.

## ІТАЛІЯ.

Італьянскія фашысты пачуваюцца ня зусім добра. У парлямэнце яны маюць проціў сябе ўжо моцную апазыцыю. Хочуць увесьці новую выбарную рэформу да парлямэнту і пагражаюць, што калі іхны праект ня будзе ўхвалены, дык яны расьпусьцяць парлямэнт. Але апазыцыя пастанавіла змагацца да канцца.

---

Італьянскі ўрад адмовіў выдачы пашпартоў сацыялістычным паслам, якія меліся быць на міжнароднай канфэрэнцыі ў справе акупацыі Рура, арганізаванай праз ангельскую „Labour Party“.

## ЛІТВА.

Газэты паведамляюць, што літоўскі старшыня міністраў і міністар заграпічных спраў на днях прыезджаюць да Парыжу.

## ТУРЦЫЯ.

На выбарах у парлямэнт урадовая партыя Кемаля-пашы атрымала вялізарную большасьць. Новы парлямэнт зьбярэцца ў ліпню.

## С. С. С. Р.

Адбываюцца далейшыя паседжаньні ВЦИК-а Унесена папраўка да саюзнай умовы, што ў міжнародных зносінах Саюз павінен выступаць, як адна дзяржава, што ні адзін закон не атрымае сілы без зацьверджаньня Саюзнай Рады і Рады нацыянальнасьцей, якія зусім раўнапраўны.

---

Сэсія Усеўкраінскага ЦИК-а аднагалосна зацьвердзіла праект саюзнай канстытуцыі, таксама, як і Закаўказкага.

---

На сэсіі Профінтэрна агалошаны рэзалюцыя Генеральнага Савету Міжнароднай Фэдэрацыі транспартнікаў, якая абвяшчае, што бэрлінскае ўмова аб адзіным фронце мае сілу толькі тады, калі Профінтэры адмовіцца ад барацьбы з Амстэрдамам.

---

Нямецкі насол у Маскве Ранцау, пабываўшы на сельска-гаспадарчай выстаўцы надта задаволены яе вынікамі. Пры гэтым адзначыў, што учасьце нямецкай прамысловасьці на выстаўцы сьведчыць аб жаданьні Нямеччыны супольна з Савец. Рэспублікамі працаваць над адбудовай абодвых краёў. Учасьце на выстаўцы мае і палітычнае значэньне, бо, азнаёміўшыся з запраўдным палажэньнем Сав. Рэспублік, у Нямеччыне ўзмацуецца сьвядомасьць неабходнасьці супольнай працы.

# Да падпішчыкаў.

З прычыны падаражаньня паперы і друку газэты, цана асобнага нумару з 1-га ліпня павялічана да 1500 м. Просім падпішчыкаў унясьці даплату.

**Адміністрацыя.**

